Год I. Пятніца, 24 сьнежня (дзекабра) 1920 г. № 1.

# НАША ДУМКА

Палітычная, экономічная і літэратурная тыднёвая газэта

ПАДПІСКА: на 3 месяцы 60 марак або 5 ф. мукі. | Цана асоб. нумэру 5 марак. | Адрэс:, Вільня Вострабрамская 5 (Пасаж).

















## БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЯ ЗГОДА.

Здаецца, ўва ўсіх віленскіх польскіх, расейскіх і жыдоўскіх газэтах было нядаўна надрукована, што паміж беларускім урадам Ластоўскага і літоўскім урадам у Коўні, пасьля досыць доўгіх пэртрактацый, дойдзена да згоды і падпісана ўмова, зьмест якой датычыць палюбоўнага разрашэньня літоўска-беларускіх спраў. Мы ня ведаем даслоўнага тэксту гэтага вельмі важнага дакумэнту. Сучасныя варункі, пры каторых Ковенская Літва аддзелена ад нас фронтам, не даюць магчымасьці зьнесьціся з прадстаўніцтвам Беларускага ўраду ў Коўні, з прычыны чаго такі важны гістарычны факт ня можа быць нами высьветлен з належнай поўнасьцю.

Прыходзіцца здаволіцца газэтнымі весткамі, згодна з якімі аказываецца, вось што.

Беларуска-літоўская згода падпісана беларускім і літоўскім урадамі ў Коўні 12 лістапада 1920 году.

Літва і Беларусь узаемна прызнаюць незалежнасьць абодвух гэтых гаспадарстваў і правамочнасьць урадаў, заключаючых умову.

Літва і Беларусь абавязуюцца падтрымліваць адна адну процiў тых, хто пасягае на незалежнасьць і на тэрыторыі літоўскага і беларускага народаў.

Тэрыторыяльныя спорκі паміж Літвой і Беларусьсю, магчымыя пры вызначэньні граніц паміж Літвой і Беларусьсю, спыняюцца і адкладаюцца да мамэнту склікаьня Беларускага Устаноўчага Сойму, які сам, ці праз свой урад дарогаю перагавораў з Літоўскім Соймам ці ўрадам установіць граніцы паміж Беларусьсю і Літвой.

Толькі ўсяго мы і ведаем з газэт аб гэтай надзвычайна важнай умове, паклаўшай добры пачатак разьвіццю прыязных стасункаў паміж двума народамі.

Мы вельмі задаволены гэтай умовай. Даўно-даўно было пара ліцьвінам і беларусам працягнуць друг-другу рукі і ісьці разам у барацьбе за сьвятое права самастанавеньня аб самых сабе. Вялікая хвала тым беларускім і літоўскім дзеячам, якія правільна зразумелі заданьне мамэнту і зрэалізавалі яго ўмовай.

Літва і Беларусь—браты не са ўчорашняга дня. У імгле далёкай старыны, у час—калі большая часьціна усходнеславянскіх („рускіх" па тэрміналёгіі расейскай) пляменьняў падпала пад іга татарскае, мы—жыхары Полаччыны, Віцебшчыны, Меншчыны, Піншчыны, Магілеўшчыны, Смаленшчыны і інш. прыхінуліся да Літвы. Вялікарасея і Украіна доўга аставаліся паднявольнымі, пад'уладнымі Залатой Татарскай Ардзе, тады як мы былі вольнымі. Вольны, свабодны, значыла тое-ж, што і белы. Калі хто хацеў адзначыць, што ён ці яго народ не пад татарамі, то такі чалавек называў сябе і сваю старану белай. Адсюль—празваньне нашай бацькаўшчыны Белай Русьсю.

Літоўскія князі Мендоўг, Гэдымін, Альгэрд і Вітаўт абаранілі нас ад татарскай няволі, чым аказалі ў свой час бязьмерную заслугу нашаму народу. Літоўскія князі не накінулі нам сваіх парадкаў і аставілі амаль усё „па старыне", т. ё. так, як яно і было да таго часу. Такія адносіны вельмі падабаліся нашаму народу, які плаціў за гэта вернай службай Літоўска-Беларускай дзержаве, ґдзе ня было розніцы у правох беларусаў і ліцьвіноў.

Паўтара сталецьця (ад паловы 13-га да канца 14-га) Беларусь і Літва разам у згодзе жылі, разам бараніліся ад сваіх ворагаў, адзін другому падсабляючы.

Аднак, пры Ягайле адносіны паміж Літвой і Беларусьсю пачынаюць псавацца і чым далей, то псуюцца ўсе больш і больш. Чаму? Таму, што і ў Ліцьве і ў Беларусі, дзякуючы палітыцы, пачатай Ягайлам, пачынаюць адыгрываць важную ролю польскія ўплывы. Літва і Беларусь пападаюць у паднявольнае палажэньне. Польшча, а потым Расея праводзяць у Ліцьве і Беларусі сваю палітыку і гэта псуе і руйнуе беларуска-літоўскую справу. Цяпер настала новая пара, калі абодва народы скінулі з сябе ланцугі, у якія былі закованы чужынцамі і сваімі ўласнымі здраднікамі.

Цяпер Літва і Беларусь ізноў паўстаюць незалежнымі і паўстануць такімі і зажывуць кожная сваім уласным жыцьцём.

Што-б ні было цяпер, што-б мы ня бачылі у сучасны мамэнт, як-бы і хто бы нас не дзяліў, далучаў, захопліваў, прадаваў, купляў, сварыў паміж сабой, або з суседзямі нашымі, — усе роўна і Беларусь і Літва паўстануць незалежнымі і зажывуць кожная незалежна ні ад каго і незалежна друг ад друга. Пры цяперашніх варунках, адбудова гаспадарства, у каторым пражывалі-б два народы, не адпавядае інтарэсам ніводнага народа. Супольныя інтарэсы ваенна-стратэгічныя, экономічныя і культурныя можна абгаварыць, жывучы ў розных гаспадарствах; можна зрабіць выгодныя для абедзьвюх старон умовы, жывучы паасобку. Толькі пры такіх варунках кожны дагаворнік застанецца запраўды роўным і вольным братам брату, падсабляючым працаваць на сваю і брата карысьць.

Ковенская ўмова 12 лістапада кладзе першы моцны камень у фундамент літоўска-беларускай дружбы, абапертай як на добра зразумелых ўзаемных інтарэсах сучаснага момэнту, так і на гісторыі мінуўшчыны, калі абодва народы жылі ў адным гаспадарсцьве, так яшчэ і на пачуцьці сымпатыі друг да друга, істнуючым паміж ліцьвінамі і беларусамі з даўняга часу і цяпер.

Слава і чэсьць тым, хто зрэалізаваў літоўска-беларускую справу ўмовай 12 лістапада. У гэтым акце адгукнуліся і гісторыя і сучасны мамэнт.

М. К—ч.

## Ці нам страшны плебісцыт?

Чытаючы газэтныя весткі аб тым, як там у Жэневе людзі сварацца аб тое, ці будзе ў нас плебісцыт, ці ня будзе, неяк дзіўна і нат' крыўдна робіцца нам, адвечным жыхарам зямлі, аб якую йдуць спорκі і сваркі: як-быццам тут справа йдзе аб голую пустыню, а не аб народ, што жыве на ёй. Вось-жа, мы, беларусы, павінны сказаць, што мы плебісцыту не баімося, адно толькі жадалі-бы, каб—калі ўжо ён канечна мае ў нас быць — дык каб нам была дадзена запраўдная магчымасьць высказаць нашу волю. Не баімося, бо нас тут не малая жменя, а вялізарная грамада!

Вось, каб людзі палахлівага сэрца ня трывожыліся лішне з прычыны плебісцыту, мы хочамо паказаць, як шацуюць лік беларусаў на адабраных ад Савецкае Расеі землях польскія прафэсары з Кракаўскага унівэрсытэту, Кржыжаноўскі і Куманецкі, каторыя ў сваей кніжцы „Tableau Statistique de la Pologne", надрукованай у Кракаве ў 1915 годзе, на стр. 50—53 гэтак аблічаюць процэнт беларусаў, жыдоў, палякоў і ліцьвіноў на сказаным абшары:

Як бачым, калі-б плебісцыт абняў увесь гэты абшар—усе дванаццать беларускіх паветаў, дык перавага беларусаў была бы поўная. Гетага і дабіваюцца ад Лігі Народаў беларускія арганізацыі. Трэба толькі, каб наш народ добра ўцяміў, за каго і за што яму лепей падаваць свой голас. А тады і баяцца яму няма чаго!

А. Л.

# ЗМАГАЙЦЕСЯ!

У нас, беларускіх сялян і работнікаў, ёсьць шмат нацыянальных і соцыяльных варагоў, але найгоршы наш вораг — наша несьвядомасьць і нядбайнасьць.

Праз нашу несьвядомасьць і нядбайнасьць з намі робяць злыя людзі ўсё, што хочуць. У нас адабралі нашае імя, перарабілі адных на маскалёў, другіх на палякоў. У нас адбіралі і адбіраюць нашых сыноў і пасылаюць іх брат на брата, — разумеецца, я тут кажу аб усёй Беларусі, а не аб якой-небудзь яе маленькай частцы. У нас проста з рук ірвуць зямлю. У нас даўна адабралі ўвесь набытак края і гаспадара. Над намі зьдзекуюцца, бясчэсьцяць нашых дзяўчат, навучаюць распусьце малых дзяцей. Нам затыкаюць рот, а ў гэты час, на кошт, дабыты мазалямі рук нашых, абвяшчаюць сьвету, што мы і хочам таго ярма, самі яго прагнем. І вось, мала таго, нас хочуць навекі сьцерці з ліца зямлі, як асобны народ, навекі выкасаваць з лічбы нацый сьвету і гэтае сваё жаданьне яшчэ змацняюць рознымі беззаконнымі законамі на паперах, на якіх,—страх падумаць, — красуюцца нашыя подпісы, подпісы нашых-жа несьвядомых і нядбайных людзей.

І вось, у той час, калі адны ў крывавым поце чала змагаюцца з ворагам, крывавымі ногцямі скрабуць вялізны мур, які хоча прыціснуць нас у сьмяротным долу, у гэты час другія ня хочуць патурбавацца палец аб палец ударыць дзеля грамадзкае карысьці. Нейкае страшэннае зьдзічэньне апанавала душы людзей. Хочаце прыкладаў? Народ гіне ў цемнаце, гіне нацыянальна і соцыяльна, гіне навекі ці на доўгія часы, а ў гэтую пару вучыцель-беларус, чародны вучыцель, сядзіць бяз усякае працы ў бацькі на карку і чакаець невядома якіх „лепшых дзён", або йдзець у мястэчка даваць прыватныя лекцыі дзяцём няўнываючай і сярод агульнае галіты дробнай буржуазіі, або з-за мізэрнага кавалка чысьцейшага троху хлеба ідзець не за страх, а за ідыоцкае сумленьне лізаць тыя рукі, што давяць за глотку яго нацыю і яго клясу.

Я не пакажу болей прыкладаў. Калі вы сьпіцё, пратрыце вочы і ўвідзіце іх скрозь, увідзіце страшэнную моц. Я паказаў абстаноўку, на якую, здавалася, народ мог-бы найболей спадзявацца. І абстаноўка гэтая ў масе сваёй выглядае назвычайна брыдка.

Годзе! Прачніцеся. Час не паўтараецца. Мінецца ён, і вам за вашую нядбайнасьць кожны ў вочы плюне.

Урэшце дадумайцеся да нейкага выраду, да нейкае пастановы. Або вы сьвядомыя ворагі свайго пролетар'яту і яго незалежнасьці і непадзельнасьці,— дык змагайцеся з намі, бійцеся з намі і, быць можа, абальлюць вас ня толькі чарнільнаю атрутаю журналіста, але вашым ўласным крывавым потам; або вы станавіцёся ў рады сьвядомых змагаьнікаў за волю нацыі і дабро сваеі клясы, дык барджэй давайце сьвежую руку, бо ў нялюдзкай бойцы ўжо шмат хто зьнемагае...

Ступайце ў школы, ступайце ў копэратывы, у розныя арганізацыі і установы, усьведамляйце цёмнага земляроба і ашуканага работніка, безьміласэрдзя бічуйце нядбайных, ганіце іх сон.

Калі на нашу ніву выйшлі мы, было цяжка і з другіх прычын. Каменьні сыпаліся ў нашы галавы з усіх бакоў, у тым ліку, можа, і з вашых несьвядомых рук, або з рук бацькоў вашых. Нас было мала. Дарога была цёмная, рэдкаму здавалася яна зусім яснай і патрэбнай, як ясна і патрэбна робіцца яна цяпер навет кожнаму няпісьменнаму селяніну, пачуўшаму хоць слова праўды з сьвядомых вуснаў. Вам у гэтым лягчэй. Вам—толькі далучыцца да вялізнай чарады. У вас уваччу грандыёзныя прыклады і моцны грунт пад нагамі: пачаткі сваей гаспадарсцьвенасьці, агульнае прызнаньне правоў вашае нацыянальнае культуры і інш.

Ідзеце-ж, змагайцеся.

Хай не засыпаюцца вашыя вочы сьмяротным пяском нядбайнасьці.

Усьведамляйце народ!

*А. Мсьціслаускі.*

# Лес.

Пахмурна стаяць беларускія пушчы і невясёлую думаюць думку. Смутна шумяць уцалеўшыя старыя сосны і паніклыя елкі. Пасылаюць сваё дакорнае вітаньне перад сьмерцю. Яны ведаюць, што скора-скора прыдзе і да іх чарод... І апошніх рэштак народнага багацьця не застанецца.

Пахмурна ў лесе, пахмурна і на душы, як задумаемся, што-ж гэта будзе з адзіным багацьцем беларускага народа, калі і далей будзе трываць такая драпежная гаспадарка.

Шмат патрэбуецца веды, любові і працы, каб палепшыць усе спусташэньні ўсю шкоду, зробленую ваеннай завірухай. Цяпер, калі завіруха яшчэ не заціхла зусім, няможна займацца арганізацыяй правільнае лясное гаспадаркі. Але цяпер можна і гэта патрэбна зрабіць, каб леса-экономічная палітыка ў бліжэйшы час была скірована шляхам найвялікшай гаспадарчай памыснасьці і экономіі.

Пакуль ня будзе статыстыкаю выяўлен агульны стан лясоў і лясное гаспадаркі края, не павінны рабіцца масавыя вырубкі для адпраўкі за межы края. Можна сячы лес для здавальненьня толькі тутэйшага района.

Беларускі народ павінен дамагчыся каб з яго адзіным дабром абыходзіліся дбайліва. Каб гаспадарсцьвеная лясная гаспадарка не давала-б магчымасьці прыезным з сталіцы панам і тутэйшым драпежнікам рабіць з лесам шалёныя сьпекуляцыі. Каб было зроблена так, што ўвесь народ меў-бы карысьць з тых скарбаў, што пакінулі яму яго дзяды ў відзе леса.

Беларускаму народу, на шкоду, яшчэ трэба чакаць таго часу, калі яго лясною гаспадаркаю займуцца запраўдныя сыны свайго народа; калі ўвесь народ будзе мець тую карысьць ад высока-арганізаванага фабрычнага дрэваабдзелачнага вытвору і ад гаспадарсьцьвенага заграгічнага вывазу закончаных драўляных фабрыкатаў. Бо дагэтуль мы вывазілі сваю дрывясіну ў круглым відзе.

Цяпер-жа трэба дабівацца, каб у нашых лясох ня гуляла так безьміласэрная сякера. Каб была зроблена абчыстка і абробка ўсяго таго, што ўжо высечана ці што эбгарэла. Што-ж датыча вывазу за граніцу і спасабоў яго, дык дзеля таго што беларускі народ ня можа яшчэ мець ад яго нічога, эпроч, казаў той, сачавічнай юшкі, дык жадаць вывазу, а злашчы рабіць яго пакуль што ня выпадае...

Лесавік.

# Беларускія Вучыцельскія Курсы.

У канцы сёлетняга году 31-га сьнежня (дзекабра), 1920 г. у Вільні (Вострабрамская, 9) начнуцца двутыднёвыя беларускія вучыцельскія курсы. На курсах будуць вучыць беларускае мовы, беларусазнаўства і мэтодыкі. Курсы арганізуюцца для вучыцялёў беларускіх школ, якія яшчэ не праслухалі курсаў беларусазнаўства.

Навука і кватэра на курсах дармавая. Апрача гэтага, слухачом будуць выдавацца абеды, або грашыма 20—30 марак у дзень. Будзе і гарбата нараніцы і ўвечары, але закуска свая.

Слухачом трэба браць з сабою пасьцелю, нат сяньнік (не набіваны).

Адміністрацыя курсаў радзіць яшчэ браць кубак (шклянку), лыжку, талерку калі ня будзе замінаць у дарозе. Вучыцялі дастануць на курсах пэнсію за сьнежань месяц.

# Аб Сойме.

Жыдоўская газэта „Unser Tog" з поваду назначаных выбараў у Сойм піша:

„Мы дагэтуль ня ведаем, што такое выяўляе сабою гэты Сойм і якія ў яго функцыі? Ці гэта Устаноўчы Сойм, які павінен выпрацаваць конституцыю і абраць урад старонкі або края? Для гэтага павінна быць раней прызнана, што нашая старонка ці край ёсьць запраўды самастойнае гаспадарства. Але ў гэта ніхто ня ймець веры. Калі-ж Сойм толькі свайго рода плебісцыт, гэта ёсьць інстытут, які павінен толькі адказаць на пытаньне, да каго Вільня і Віленшчына маюць належаць—да Польшчы ці Літвы?—дык павінны быць захаваны ўсе правілы плебісцыту: поўная свабода агітацыі, свабода тлумачэньня шырокім несьвядомым масам перавагі ці заганы ў прыйманьні той ці іншай гаспадарсцьвенасьці. На прыгажуньню Вільню галяцца два лыцары. Трэба-ж даць ёй магчымасьць убачыцца і пагаманіць з аднымі залётнікамі.

Што-ж мы відзім? З Варшавы ў Вільню можна ехаць без пярэпускаў, у Вільню без перашкод прыяжджаюць дэпутаты варшаўскага Сойму і прамаўляюць перад шматтысячнай публікай,—а другі залётнік—Коўня запёрт за фронтам, і яго ня чуваць і ня відаць. Пры такіх варунках ня можа быць зроблены вольны выбар, насяленьне ня можа вольна выказаць сваю думку аб гэтым першаступеннай важніцы пытаньню.

Пры такім фальшывым становішчы палавіна насяленьня, можа быць, зусім адмовіцца ад удзелу ў выбарнай кампаніі".

З свайго боку мы можам да гэтай мовы яшчэ дадаць, што ня Вільню галіцца й трэці залётнік—Беларусь, які ўрэшце з сваімі правамі на яе можаць аказацца самым паважным, бязсумненным прэтэндэнтам. Літоўская рэспубліка, зразумеўшы гэтую гістарычную акалічнасьць, зрабіла і гістарычнай важніцы саюз з Беларускай рэспублікай, прадстаўленай урадам выдатнага беларускага палітыка В. Ластоўскага. А раз так, раз беларусы пайшлі з ліцьвінамі за адно, а жыды падаюць вышэў паказаны голас,—што-ж будзе тут за Сойм? Адказ адзін: гэта будзе ня Сойм, а Рада тутэйшых грамадзян, уважаючых сябе за палякоў сьвядома ці толькі пад уплывам агітацыі. Такая Рада ў справах, належачых да моцы запраўднага Сойму, ніякае вагі мець ня будзе.

Цікаўна яшчэ, што думае ў гэтай справе польская работніцкая „Паходня"?

# Важныя навіны.

## Невядомая польска-беларуская дэлегацыя.

Польскія газэты шмат пішуць цяпер аб нейкай польска-беларускай дэлегацыі, якая прыехала ў Варшаву прасіць, каб Польшча ўстанавіла ўсходнія граніцы Беларусі. Адбылося паседжаньне прадстаўнікоў усіх варшаўскіх соймавых клюбаў пры гэтай дэлегацыі.

## Беларусь будзе незалежнай і самастойнай.

„Віленскае Слова" піша: Старшыня беларускіх міністраў Вацлаў Ластоўскі, які цяпер у Жэневе, паведамляе, што беларускае пытаньне ў Лізе Народоў узыйшло на памысны шлях. Незалежнасьць і самастойнасьць Беларусі не падлягаець ані пад якое сумляваньне.

Тое-ж падцьвярджаецца і спаўняючым абявязкі гаспадарсцьвенага кантралёра ў беларускім урадзе Кляўдушам Душэўскім.

## Тамаш Грыб зноў на волі.

З Варшавы наказуюць, што зноў пусьцілі на волю арыштаванага ў чэрвені г.г. ў Менску і вывезенага ў Польшчу вядомага байца за беларускі пролетарыят Тамаша Грыба, лідэра беларускай партыі соцыялістаў-рэволюцыянэраў.

## Масковска - беларуская вайна.

ГОРАДНЯ, 10.12 (Орыент). З Баранавіч паведамляюць, што войскі Беларускай рэспублікі пасуваюцца наперад. У цяперашні час баі ідуць у 12 вярстох ад Случа. Партызаны робяць глыбокія рэйды у тыл бальшавікоў. Надоячы былі разброены значныя аддзелы бальшавікоў.

## Атаман Якубецкі.

ВАРШАВА, 17.12 (Орыент). Беларускае Прэсбюро паведамляе, што беларускія войскі не разьбіты, а ўсё яшчэ б'юцца з бальшавікамі пад вярхоўным камандаваньнем майора Якубэцкага.

## Страшэнныя бітвы.

Варшаўскія газэты пішуць, што ў районе Семажова адбыліся крывавыя баі між аддзеламі першай беларускай брыгады і бальшавікамі. Частка, беларускіх аддзелаў была разьбіта і перайшла польскую граніцу ў районе вёскі Ветлыцы. Іх разброілі палякі. Да гэтага часу рзброена 50 афіцэраў і 400 салдатаў.

## Беларускае паўстаньне.

ВАРШАВА 20.12 (Орыент). Начальнік штаба беларускіх паўстанцаў Борык, які знаходзіцца праездам у Варшаве, падаў гэтакія ведамасьці:

Беларускае паўстаньне маець партызанскі характар. У ім ёсьць тутэйшыя сяляне, зялёныя і дэзэртыры з Чырвонае Арміі. Бальшавікі стараюцца скрыць яга існаваньне і давяць вялікарасейскімі аддзеламі. Паўстаньне пашыраецца на ўсіх беларускіх паветах, ня гледзячы на недахват броні і агульнай помачы.

# Аб юрыдычным прызнаньні Беларусі.

Беларускі міністр Вацлаў Ластоўскі, які цяпер у Жэневе, дамагаецца прызнаньня беларускага ўраду de jure (па праву). Апроч таго, ён вымагаець, каб плебісцыт, калі ён будзе, адбываўся бы на ўсход ад лініі Керзона, пры чым беларусы губяць тры паветы: Бельскі, Беластоцкі і Сакольскі.

